Год II. — № 25. Пятніца, 24-га чэрвеня (июня) 1921 г. Цана нумару 10 марак.

# НАША ДУМКА

ПАЛІТЫЧНАЯ, ЭКАНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА, Г. Б., ГЕННАДЗІИ БОГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, МАКСІМ ГАРЭЦКІ, А. ДМАХОУСКІ, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАУЦОУ МАКАР, ДЗЕД КУЗЬМА, М. К-Ч., А. МСЬЦІСЛАУСКІ, ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, КАЗІМІР СВАЯК, СТАНІСЛАУ ЧЫЖЭУСКІ і інш.

Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.
Цэны абвестак: за радок пэтыту: перад тэкстам—40 мар., сярод тэкста—60 м., на апошняй страніцы—15 марак. Увага: страніца мае 6 шпальтаў.
Падпіска: на 3 месяцы 150 польскіх марак або 10 хунтаў мукі, заграніцу 250 п. марак.
Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтара і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.



За апошнія часы павялічыліся скаргі нашых падпісчыкаў на тое, што „НАША ДУМКА“ не даходзіць да іх па іх адрэсох.

Рэдакцыя даводзіць да ведама ўсіх чытачоў і падпісчыкаў нашай газэты, што „НАША ДУМКА“ на адрэсы ўсіх падпісчыкаў **бязумоўна пасылаецца акуратна.**

З свайго боку Рэдакцыя просіць шаноўных падпісчыкаў паведамляць яе аб кожным выпадку, калі газэта да іх, з тых ці іншых прычын, **не даходзіць.**

Рэдакцыя.

## Беларускія курсы для вучыцялёў у Вільні.

1. Курсы пачынаюцца 25 чэрвеня; разьлічаны на 2½ месяцы.
2. Курсы абавязковы для ўсіх вучыцялёў беларускіх школ Сярэдняе Літвы.
3. На курсах выкладаюцца: беларуская мова, гісторыя беларускае літэратуры, гісторыя Беларусі, геаграфія Беларусі, польская мова, пэдагогіка, дыдактыка, мэтодыка роднае мовы, арытмэтыкі, прыродазнаўства, гісторыі і геаграфіі, жывая прырода, няжывая прырода, пеяньне, тэатр і коопэрацыя.
4. Курсы для слухачоў дармавыя.
5. На курсы прыймаюцца вучыцялі беларускіх школ і кандыдаты на вучыцялёў з асьветаю ня ніжэй 4-х клясаў сярэдняе школы.

   Кожны курсант-(тка) падаюць заяву на імя Кіраўніка курсаў і прыкладаюць дакумэнт аб асьвеце (можна копію, засьведчаную праўнаю установаю).
6. У працягу курсаў штотыдня адбываюцца рэпэтыцыі, а ў канцы курсаў экзамены з усіх прадметаў.
7. Пры курсах істнуе дарэмны для слухачоў інтэрнат.
8. Незаможным курсантам выдаецца грашовая дапамога.
9. Курсы месьцяцца ў будынку Беларускае Гімназіі (Вострабрамская, 9).
10. Канцэлярыя курсаў адчынена штодня ад 9 да 2 і ад 4 да 6 гадзіны.

Кіраўнік курсаў **Рак-Міхайлоўскі.**

Сэкрэтар **Ю. Лістапад.**

# Без роўнавагі.

Нябывалая Вялікая Вайна, пачатая ў 1914 годзе і дасюль яшчэ ня зусім зьліквідаваная, выбіла з роўнавагі ня толькі Эўропу, а немаль што цэлы сьвет.

Фармальна даўно ўжо падпісаны вядомы Вэрсальскі мір, жывыя сьцены арміяў не стаяць ужо адна проці аднэй, ня грымяць шалёна гарматы па Эўропе.

Але да міру сапраўднага, да спакою, пры якім можна было-б ня толькі загаіць раны, зробленыя ўсясьветнай вайною, а навет пачаць больш-менш здаровае эканамічнае жыцьцё, як гэтага вымагае інтэрас кожнага гаспадарства, — да поўнай ліквідацыі ваеннай разрухі не ўдалося дайсьці ніводнаму з гаспадарстваў Эўропы.

І вельмі ясна: мір даўно падпісаны, але мір не праведзены ў жыцьцё, дзеля таго, што гэта ня так проста.

Дзяржавы Антанты, а так сама і дзяржявы Цэнтральнай Эўропы, хаваючы сапраўдныя мэты вялікай вайны, ў сваім часе высоўвалі розныя гуманітарныя лёзунгі, за сьвятасьць якіх яны, нібыто сапраўды, чубіліся да апошняй магчымасьці.

Найпрыгажэйшым і, праўда саўсім насьпеўшым, лёзунгам быў гучны енк аб тым, што вайна вядзецца *за вызваленьне паднявоелных народаў*.

Але-ж, абедзьве староны надта даволі мелі ў саміх сябе гэтых паднявольных народаў і ані ня думалі даць ім нацыянальна-дзяржаўную волю ў сябе дома.

Калі навет ня браць пад увагу бышую царскую Расею —гэты страшэнны „вастрог народаў“ (які, праўда, пачаў крычаць аб самаазначэньні народаў толькі ў рэвалюцыю), калі ўспомнім даваеннае палажэньне цывілізаванага Захаду Эўропы, дык бязумоўна зьдзівімся чаму гэта, замест таго, каб пачынаць нялюдзкую бітву, напр. Англія не пазволіла Ірляндыі выкарыстаць яе права на самаазначэньне так, як сама Ірляндыя хоча; чаму Нямеччына трымала ў сваёй моцнай жмені польскую Познань і Сьлезію, чаму не праводзіла самаазначэньня народаў з сваіх уласных межах шматнацыянальная бышая Аўстра-Вэнгрыя?

Ці-ж да лёзунгаў аб самаазначэньні народаў можна было дадумацца толькі тады, калі ў бойках палілася дарэмна кроў мільёнаў людзей?

Вінавайцы вайны, — хто-б яны ня былі,—ня вылічылі—да чаго яна давядзе. Яе непрадугледжаны жах змусіў іх знайсьці прыгожыя лёзунгі, каб апраўдацца перад працоўнымі масамі, якія зьяўляюцца ў кожнай дзяржаве большасьцю і служаць найбольшым матар'ялам для арміяў, абяртаючыся ў час вайны ў салдатчыну.

Вялізная бойка скончылася, як заўсёды, перамогаю аднэй стараны і поўным пабоем другой.

Пабітая старана мусела падпісаць фармальны міравы дагавор, бо біцца далей не магла.

Пераможцы ізноў - жа муселі прадыктаваць пераможаным гэткія варункі міру, каб пакрыць свае нязьлічаныя ваенныя страты і, так ці йначай, зыскаць з непрыяцеляў нейкія кошты на магчыма хуткае падняцьце свае гаспадаркі, каб хоць свой народ бачыў, што ваяваў ён не дарма.

Тым часам, як тая, так і другая старана змаглася дашчэнту і пісаны мір перапісваўся нанова няраз, папраўляўся і вечна заставаўся голым дагаворам.

І абедзве староны, што кінулі біцца на фронтах, вядуць глухую палітычную барацьбу і ніяк ня могуць пагадзіцца.

Адна кажа, што яна дагулялася да таго, што ня мае чым заплаціць.

Другая, — пабіўшы апошнюю карту,—схапілася за розум і ўбачыла, што шалёная ваенная гульня давяла яе да таго, што ў яе не хапае сілы да творчае працы.

Як-жа, пры гэткім палажэньні, думаць аб самаазначэньні народаў?

А думаць аб гэтым, пэўна-ж трэ' было-б.

Бо, калі вайна ішла ў імя вызваленьня паднявольных народаў дык пасьля яе бязумоўна павінна адбыцца гэтае вызваленьне пры моцным падтрыманьні таго, кто за гэта ваяваў!

Тым часам, відаць, што кожнаму свая сарочка бліжэй да цела.

Соцыяльная рэвалюцыя ў Расеі і адарваньне нязьмернага па абшары рынку ад вытворчай сілы буржуазна-капіталістычнай Эўропы і Амэрыкі, стварыла ў гэтых апошніх краёх сьвету зусім зразумелы перавытвар (лішку) рэчаў фабрычнага вырабу і закрыла магчымасьць чэрпаць з абшараў бышае Расейскае Імпэрыі патрэбныя для фабрычна-прамысловых краёў сырыя матар'ялы.

Адсюль — саусім натуральнае безрабоцьце ў Англіі (паўтара мільёна безработных) і Амэрыцы.

А ірляндзкае пытаньне й забастоўка горнарабочых у Англіі, а нездаваленьне пакрыўджаных вайною працоўных масаў Францыі, Італіі?...

У кожнай вялікадзяржаўнай нацыі шмат сваіх хатніх, прыкрых справаў і некаторыя народы, абуджаныя да барацьбы за свой вольны быт, кінуты на волю свайго ўласнага лёсу тымі, хто, нібыто, за іх вызваленьне веў крывавую вайну.

Навет, народы забясьпечаныя ў сваёй дзяржаўнасьці вялікімі гаспадарствамі, як Польшча, Чэхаславакія, Літва, Лацьвія і інш. заслужваюць апеку сваіх вялікіх саюзнікаў, ці проста прыяцелёў пастолькі, пасколькі гэта апека карысна для апякуноў.

Непаразуменьняў паміж гэтымі

# Маленькі фэльетон.

Адно з віленскіх *обчастваў*, дзеля вымагаючых патрэб, напэўна мусі адкіне назву „дэмакратычнага“.

Даўно гэта было...

Яшчэ Зэўс сядзеў на нябесным стале, акружаны багамі, багінямі, бажанятамі і іншымі бесьцялеснымі духамі...

— Слаўна было на небе...

— Усюды блёск, вясельле, танцы і ўсё гэткае.

На зямлі—розна...

Адным было надта сьветла, другім — надта цёмна. Адным надта добра, другім — ну... зноў надта цёмна. Адны на зямлі весяліліся, як і на небе—другіе — маўчалі...

Хвалілі Зэўса тыя, якім было добра...

З дзіватою глядзелі яны на тых, хто не хваліў Зэўса...

— Што такое?—думаюць,—мусі яны не здаволены багамі... Ня йначай яны прыхільнікі Злога Духа.

І вось яны зрабілі *обчаства* шчырых, дзеля абароны багоў... Эмблемаю ўзялі—абразок ангела...

Другія паранейшаму... маўчалі. Ім было цёмна.

Весяліліся на небе, весялілася і *обчаства*. Часамі навет хто з бесьцялесных зьлятаў сюды і ляскаў віднейшых па плячы, кажучы:

— Добра, дзеткі, добра...

Але вось, адкуль ні зьявілася навальніца, гром, маланка... Затрашчэла неба, раскалолася...

Мусі праўда, Злы Дух знячэўку напаў на пьянае царства...

Стала ўсім цёмна... Пападала са страху на зямлю ўсё *обчаства*... Амярцьвела і дыхаць перастала...

Прайшло дужа часу... Адкаціўся дух у ляжачых, сталі падымаць галаву некаторыя...

А тыя, другія, як і ўперад, капаліся і штурхаліся каля сябе... Ім і цяпер было цёмна.

А тыя падумалі, што гэтыя рады перамене...

Дрыжаць, не варухаюцца.

Ўсё-ж век ня выляжыш.

— Гэй, — кажуць разумнейшыя, — трэба ўзяць вопратку тых, другіх...

З ваўкамі жыць, па воўчы выць.

— А дзе-ж яе возьмеш?— пытаюцца дурнейшыя, гэта-ж на нас тое самае, што было...

— А вось порце выцягнем на верх...

— Дый яно цяпер бруднае, чорнае...

— Гэ... можа не разьбяруць, падумаюць, што ад працы...

Хвост ідзе за галавою. І праўда, другія ізноў не заўважылі. Ім усё цёмна было...

Ачуняла наша обчаства, паўставала і ўцёрлася між другімі...

— Гэ,—кажуць ізноў разумнейшыя... Дадушы, яны зусім сьляпыя. На чорта нам гэтыя лахманы, яшчэ хто падумае, што мы палітыкай, нейкаю агітацыяй, ці чым іншым займаемся...

— Але-ж, неяк, неякаво... Усё роўна-ж і нам цяпер ня так відно... Усё-ж такі „попадл помендзы вроны, каркай як і онэ“, перакруцілі яны старую сьродковалітоўскую прыказку на новы лад...

— Хочаце, ня хочаце, а трэба,—чамусьці дадалі разумнейшыя...

Ня толькі трэба, а павінна... А то сьмех адзін глядзець на ваш гарнітур.

Толькі-ж наўрад, ці Зэўс да вас вернецца...

**Музыка без языка.**

# Штодзенныя весткі.

*Пятніца*, 17 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Укр. бюро друку паведамляе, што на лініі Днестра пачаліся гарматныя стрэлы паміж румынамі і бальшавікамі.

— Сьлезія памалу пачынае супакоівацца.

— На зьезд III інтэрнацыяналу ў Маскву прыехала 26 дэлегатаў з Зах. Эўропы і 50 з усходу. Фармуецца опозыцыя Леніну, на чале яе стаіць Радэк.

*Субота*, 18 *чэрвеня* 1921 *г.*

— У Коўні чакаюць, што лёс Віленшчыны аканчальна будзе вырашаны на Жэнэўскай Конфэрэнцыі. Такія самыя думкі пануюць і ў сфэрах блізкіх да польскіх урадовых кругоў. Такім чынам польска-літоўская спрэчка разьвяжацца раней восені.

— Бальшавікі хочуць купіць у ангельцаў 400 аэропляноў. А ці досіць у іх хлеба?

— У Лацьвіі Урад распарадзіўся даручыць кантроль над лацьвійскім прывозам і вывазам тавараў лацьвійскаму Саюзу каапэратываў.

— Трыбунал у Маскве судзіць некалькіх архірэяў, сьвяшчэньнікаў, каталіцкіх ксяндзоў і рабінаў за контр-рэвалюцыю.

*Нядзеля*, 19 *чэрвеня* 1921 *г*

— У Англіі лічыцца 1.500.000 безработных.

— Паведамляюць, што ірляндскія паўстанцы забралі г. Бэльфаст.

— Ковенская газ. „Эхо“ піша, што быццам Чычэрын паслаў да Сапегі новую ноту, ў якой папераджае, што Сав. Расея не застанецца нэўтральнай, калі Польшча выступіць з вайной проці Літвы.

— Газ. „Narodn. Listy“ піша, што ў палітычных колах Лёндану ходзяць чуткі, што нібыто дзяржавы прышлі да згоды, па якой да Нямеччыны будзе прылучана В. Сьлезія, а да Польшчы Вільня.

— Ням. газэты пішуць, што паміж Польшчай і Сав. Расеяй заключана умова аб сфэрах уплыву ў Прыбалтыцы,— Лібава і Віндава будуць пад уплывам Польшчы, а Рыга і Рэваль—Расеі.

*Панядзелак*, 20 *чэрвеня* 1921 *г.*

— 17 чэрвеня ў Жэнэве адбылося першае пасяджэньне Рады Лігі Народаў.

— Ангельскія войскі паступова займаюць мясцовасьці Сьлезіі, пакінутыя паўстанцамі.

— Савецкія войскі ўвайшлі ў М. Азію з мэтай памагаць туркам проці грэкаў. Пішуць, што нібыто туды будзе адпраўлены Будзенны і 60.000 коньніцы.

— Нац. расейскі зьезд у Парыжы зачыніўся. Прыняты рэзалюцыі аб патрэбе аб'яднаньня ўсіх проці-бальшавіцкіх сіл, аб амністыі ўсім бальшавіком і аб спыненьні пагромаў.

— Прадстаўнікамі ад Літвы у Жэнэве будуць—Гальваноўскі, Салавейчык, Мілош і Норус.

— Проці Саветаў паўсталі забайкальскія казакі; яны прылучыліся да Сямёнава. Сямёнаў спадзяваецца забраць усю ўсх. Сыбір.

*Аўторак*, 21 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Віленскае пытаньне абавязкова вырашыцца ў Жэнэве ў канцы гэтага месяца.

— Прадстаўнікамі Польшчы у Жэнэве будуць—Аскіназі, Ольшоўскі, Паўлоўскі і адмірал Звуркоўскі.

— З Расеі пішуць, што дзеля няхвату насеньня, там засталося незасеяным 50% ворнае зямлі.

— У Баварыі зачыніўся зьезд расейскіх монархістаў, — прынята шмат рэзалюцыяў.

— Сав. Расея дамагаецца ўвайсьці ў Балтыцкі Саюз.

— III Інтэрнацыянал пастанавіў залажыць школу чырвоных агітатараў. Яны будуць арганізаваць паўстаньні і бунты ў зах.—эўроп. дзяржавах.

— Спачатку Ліга Народаў занялася справай Гданску. Гданскі ўрад павінен заключыць цывільную умову з Польшчай.

— Брыян і Керзон пасылаюць ноты ў Бэрлін і ў Варшаву па Сьлезкаму пытаньню.

*Серада*, 22 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Згодна з паглядам міжсаюзнай Камісіі ў Сьлезіі, саюзныя дзяржавы зьбіраюцца рашуча патрабаваць ад Нямеччыны спыненьня вайны ў Сьлезіі. Мясцовасьці, адкуль выйшлі паўстанцы, займаюцца коаліцыйнымі войскамі. Кажуць, што прамысловы вокруг, будзе аддадзены Польшчы.

— У Лацьвіі злажыўся новы габінэт; старшыня Мееровіч.

— Монархічныя колы Нямеччыны абураны проці ўраду за ўступкі ў В. Сьлезкім пытаньні і пагражаюць контр-рэвалюцыяй.

— Аўстрыякі даручылі злажыць габінэт міністраў начальніку венскай паліцыі Шуберу,

— Украінскі Савецкі урад у Харкаве абвесьціў абложны стан ува ўсей Сав. Украіне.

— Ленін у аднэй з сваіх прамоваў сказаў, што скліканьне устаноўчага сойму ў Расеі магчыма, але сойм усеж-ткі павінен быць камуністычным.

*Чацьвер*, 23 *чэрвеня* 1921 *г.*

— Па словах аднаго з дэлегатаў, польская дэлегацыя ў Жэнэве будзе рашуча дабівацца прылучэньня Вільні да Польшчы, як таго, нібыто, хоча насяленьне Віленшчыны.

— У Вільню выехала з Варшавы дэлегацыя Лігі Народаў.

— У Сьлезію прыяжджаюць новыя францускія войскі.

— У Львове ідуць арышты камуністых.

— Аддзелы сінфэйнэраў (ірляндск. незалежнікі) пакінулі Бэльфаст.

— Гюманс выказаўся проці таго, каб дапусьціць дэлегатаў Віленшчыны да перагавораў аб яе лёсе. Мотывы тыя, што Вільня знаходзіцца пад *польскай окупацыяй*.

— У пасяджэньні 22 чэрвеня Рада Лігі Народаў разглядала віленскае пытаньне.

— Ноччу з суботы на нядзелю у Коўні быў зроблены замах на забойства літоўскага міністра загр. справаў Пурыцкіса. Нейкі чалавек страляў з саду ў вакно. Куля прайшла міма, не зачапіўшы нікога. Праступніку ўдалося ўцячы.

— Паўстаньне проці бальшавікоў у Сыбіры шырыцца. Паўстанцы захапілі Перм, Кацярынбург, Чалябінск. Уся Сыбір адрэзана. Уральскія работнікі бастуюць. К паўстанцам прылучыўся казацкі атаман Дутаў.

# ПРОВІНЦЫЯЛЬНЫ АДДЗЕЛ.

**Гастролі польскіх русыфікатараў на Ашмяншчыне.**

Гэтыя паны аб'яжджаюць нашы цёмныя куты, маючы ў кішані даручэньне п. Ашмянскага Інспэктара на рэвізыю матар'яльнага становішча істнуючых школ, а ў сваёй мэце „urządzenie“ польскіх.

Як яны выканоўваюць гэта—відаць з іх дзеяў у вёсцы Пашкішкі, куды яны наехалі апошнімі днямі. У вёсцы гэнай дагэтуль была беларуская двухкамплетная школа, маючая вучняў больш як 70. Ніхто з вясковых ніякіх заяваў проці гэнай школы не рабіў. Аднак-жа паны інструктары знайшлі патрэбным сабраць сход і запытацца сялян — якую яны хочуць школу? Ведаючы добра аб лёсе Барунскай сэмінарыі, арыштах беларускіх вучыцялёў і частых візытах у беларускіх школах жандармэрыі, сялянам ня трудна было сьцяміць чаго хацелі п. п. інструктары, але як іх жаданьні мабыць ра ходзіліся з жаданьнямі п. п. інструктароў, дык яны маўчалі. Бачачы гэткую нясьмеласьць сваіх грамадзян, ці можа, няўмеласьць іх выявіць патрэбны п. п. інструктаром патрыятызм, за работу ўзяўся зараз п. солтыс. Ён рашуча адказаў, што яны хочуць польскую школу і болей ніякай. За ім пацягнуліся яшчэ 3—4 галасы, але большасьць „згаджалася маўчком. Ведама, што пасьля такой «аднагалоснасьці», заставалася толькі зацьвярдзіць яе сялянскімі «подпісамі», што і было «выканана», як найлепей, пераважна, «п. солтысам».

Але ўсё гэта драбніцы ў параўнаньні з тым, што было далей: калі пратакол і звычайная прамова аб Гурным Сьлёнску былі скончаны, дык адказам на апошнюю было даволі дзіўнае пытаньне: «А паруску ці будзеце вучыць у школе?» І вось паны інструктары, ні чутачкі не сумляваючыся, зараз запэўнілі сялян, што *паруску вучыць іх будуць*.

Дык вось як! палякі будуць вучыць беларусаў у сваіх школах паруску! Будуць абмаскаліваць беларусаў? Будуць рабіць тое, проці чаго так абураваліся і ў чым так моцна абвінавачавалі беларускія школкі! Будуць рабіць тое, за што нас звалі... бальшавікамі! Ах паны! Да якой-жа мэты імкніцё вы ў сваёй дзейнасьці? Калі вам няўдаецца апалячыць, дык вы згаджаецеся хоць абмаскаліваць? Калі вам няўдасца зрабіць тое, што хочацца, дык вы зачынаеце хоць шкодзіць таму, што вам не падабаецца? Кіньце паночкі баламуціць наш народ, і так ужо досіць абаламучаны, а то вы тут не зьбярэце і тых галасоў, якія набралі ў Гурным Сьлёнску!...

**Жук.**

**Беларускі спэктакль у м. Баранавічах.**

28 траўня г. г. у Баранавічах быў даны беларускі спэктакль. Былі пастаўлены „Чорт і баба“ і „Па рэвізіі“. Потым дэклямацыі і хор і, нарэшце, скокі. Кіраўніком вечару быў В. Русак, паклаўшы шмат працы і энэргіі для таго, каб вечар апраўдаў тую мэту, да каторае ішоў ініцыятар яго: даць пекнае выражэньне бытавых старон жыцьця беларуса. Вечар прайшоў весела, і новая пастаноўка сабрала шмат людзей. Лёгкія для пастаноўкі рэчы вымагалі большае ўдуманасьці з боку артыстаў-аматараў. У першай п'есе дзеяньне рабілася, як быццам у вясковай хаце, аднак гэта было мала заметна з-за адсутнасьці некаторае мэблі і рэчаў дамовага сялянскага жыцьця.

У выпаўненьні ролі „бабы“ заметна было па адносіне да чорта шмат фамільярнасьці, ня думаю, каб чорт беларускай кабеце быў такі родны. Не ўдалася роля Марыські, якая толькі іграла, але не перажывала. Лепей прайшла ў сэнсе выпаўненьня другая пьеса. Тыповы старшыня, разам з пісарам і пьяным мужыком—сьведкаю, зрабілі самае найлепшае уражаньне. Відаць было, што артысты аднесьліся да свае справы добрасумленна, і куток вёскі быў выяўлен ясна.

Потым пачалося пеяньне: сьперша хор прапеяў Беларускую марсэльезу і гымн, пры чым уся публіка мусіла ўстаць, далей прапеялі „Ваяцкі марш“ і некалькі народных песьняў. Паміж песьнямі былі прадэкляміраваны вершы Я. Купалы, Коласа і А. Гаруна.

Агульнае ўражаньне такое, што першы вечар за апошні сэзон абяцае даваць публіку ў будучыне. Болей-бы такіх вечароў. Няхай маладыя ня зыграныя сілы прымаўшыя ўдзел у спэктаклі ня падаюць духам, што чысты збор стаўся вельмі малым—гэта віна дырэкцыі тэатру ў твары паважаных п. п. Макароўскага і Куруся, каторыя, садралі 20,000 пол. марак за салю, даўшыя ў гэты дзень кінэматографічны сэанс, гэта дзеля таго' каб адбіць на вечар публіку.

Беларуская справа вытрымлівае не такія буры, аднак гэта не павінна адбіваць ахвоту і жаданьне працаваць на гэ-

тым шляху, бо кожнае выступленьне ёсьць камень пры будаваньні Бацькаўшчыны.

Як раз пра гэтае кажа Янка Купала ў сваім вершы аратаму:

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі,
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсьць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай.....

Няхай гэтыя словы паддаюць ахвоты ў будучыне грам. Русаку і яго супрацоўнікам.

К

### Пісьмо ў рэдакцыю з м. Баранавіч.

Паважаны пане рэдактару! Маем гонар прасіць надрукаваць у паважанай газэце «Наша Думка» ніжэйпісанае:

Браты беларусы! Чаму Вы нас забыліся? чаму Вы на нас ня зьвернеце ўвагі? чаму вы ня хочаце пацікавіцца нашым жыцьцём:

Вы добра ведаеце, што Баранавічы гэта найчысьцейшая мясцовасьць Беларусі, дзе кожын жыхар ёсьць кроўны беларус. Мы закінуты, забыты Богам і людзьмі, значыцца ў поўным сэнсе аддаены на расправу крэсаўскім чыноўнікам, якіх тут так наплыло багата, што занялі усе прыватныя кватэры. Не адзін ёсьць выпадак, што паны «афіцэры» занялі усю кватэру, выгнаўшы гаспадара з сямейкаю на малюсенькую кухню Апроч гэтага, яны рэквізуюць усю пасьцель і сталовыя прылады ў гаспадара для сябе і пікнуць процiў іх нельга, бо няма каму бараніць, няма каму заступіцца, а наш тут голас, ёсьць „голас вапіючага ў пустыні“.

Беларускай працы павесьці не дазваляюць, *навет газэта „Наша Думка“ ўжо не даходзіць.* Самы апошні № мы атрымалі 20 і пасьля гэтага болей ня маем; чаму? невядома.

Дык будзьце, браты беларусы, нашы родныя браты, нашымі абаронцамі, падтрымоўвайце нас хоць духам, не глядзеце на нас пассыўна, мы крычымо з месца адсюль, але нас ніхто ня чуе, дык скажэце вы ім праўду, енк і сьлёзы людзкія, чаго яны ад нас болей хочуць.

Мы болей трываць ня можам, мы ў ланцугох, мы закутыя, але нас ніхто даведацца ня хоча.

Паднісана: М. Лапцік.
А. Каральчук.
Б. Шпак.
Г. Вішневскі.

12.VI—1921 г.

## Змушаюць да падданства.

**Горадзен.**

Ў Горадзеншчыне ўжываецца прымус дзеля прыйманьня польскага падданства.

Горадзенскі стараста п. Рагалевіч зьвярнуўся да доктара Тальгэйма, а гэтак сама да зубных лекараў з цыркулярам, каб яны ў працягу 2-х тыдняў далі яму адказ у справе дьяржаўнай прыналежнасьці. 7-га траўня гэткая самая прапазыцыя зроблена дактарам мэдыцыны, інжынэрам, тэхнікам і адвакатам.

Стараста пры гэтым перасьцерагае, што хто ня прыме польскага падданства, дык будзе пазбаўлены права зарабляць сабе на жыцьцё прыватнаю практыкаю, як гэтак сама не адтрымаюць пасадаў і і. д. („Głos Ludu“).

### Гвалт над беларускаю школаю.

У м. Палачанах, Валожынскага пав. у вялікім скарбовым школьным будынку, памяшчаліся ў розных канцох беларуская і польская школы. На кожную школу прыпадала па некалькі даволі прасторных пакояў і яны маглі свабодна абедзьве памяшчацца.

Нядаўна ў Палачаны прышла адна вайсковая часьць, і кватэра беларускае школы была занята пад шпіталь. Калі войска выйшла, дык польская вучыцелька замкнула дзьвéры беларускае школы. Давéдаўшыся аб гэтым, мясцовае насялéньне з вялікім абурэньнем ішло ўжо самадумам расправіцца з замком і з вучыцелькаю, і толькі дзякуючы уплывам беларускага вучыцеля, К. Філіповіча, удалося да гэтага не дапусьціць. Дык кватэра беларускае школы стаіць пустая, замкнёнаю, а беларуская школа прымушана была перамясьціцца ў прыватную хату ў в. Чарапы, ў паўвярсты ад Палачан.

### Едзь у Кракаў, а не—з службы далоў.

Часовы інспэктар Валожынскага пав. загадаў беларускім вучыцялём беларускіх школ éхаць на польскія дзесяцьмéсячныя курсы ў... Кракаў. Хто не згаджаецца éхаць на гэтыя курсы, таго п. інспэктар звальняе з ураду і выдае аб гэтым папéрку. Дзеля вялікае далячыні і немагчымасьці пакінуць сям'ю і дом, ніхто з вучыцялёў ня éдзе на гэтыя курсы. Гэны-ж інспэктар тым вучыцялём, якія не заявілі аб згодзе éхаць на курсы ў Кракаў, выплаціў пэнсію за 3 месяцы па шэсьць тысяч марак у мéсяц без ніякіх дадаткаў, як на сямью і за трыгодкі; інспэктар казаў, што таму, хто паéдзе на курсы, ён выплаціць поўную пэнсію з усімі дадаткамі.

### Нарэшце выплачваюць пэнсію.

Вучыцялём беларускіх школ Валожынскага павéту, што адыйшоў ад Сяр. Літвы, ажно толькі цяпéр выплачваецца пэнсія. Пэнсіі выплачвае інспэктар пачатковых школ Лідзкага павéту і ён-жа часовы інспэктар Валожынскага павéту. Пэнсія выплачваецца за месяцы—красавік, май і чэрвен.

## БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

**Выпускны акт - вечар** матурыстаў 1-ай Віленскай Беларускай гімназіі адбудзецца заўтра у суботу 25-га чэрвеня ў памяшканьні салі гімназіі (Вострабр. 9). На праграму складаецца драма „Цені“ Аляхновіча з учасьцем самога аўтара, дэклямацыя, сьпевы і г. д. Буфэт. Танцы пры ваенным аркестры праз усю ноч. Пачатак а 7 гадз. ўвечары.

### Аб прыгатаваньні беларускага вучыцельскага кадру.

Да Беларускае Школьнае Рады ў Вільні прыяжджаюць прадстаўнікі беларускага грамадзянства з паветаў Навагрsucceedскага, Баранавіцкага, Несьвіжскага, Пінскага, Слонімскага і іншых паўднёвых паветаў часьці Беларусі, прылучанай Рыскм мірам да Польшчы. Делегаты выказаюваць вялікую патрэбу ў арганізаціі беларкіх вучыцельскіх курсаў для усяе гэтае тэртыторыі.

На іх пагляд гэтакія курсы найляпей было-б арганізаваць у Баранавічах. Вучыцялі гэтых паветаў ня могуць быць у Вільні, бо ім гэта надта далёка; пры гэтым-жа на Курсах у Вільні. Ня хопіць месц нат' вучыцялём паўночных паветаў, дык што-ж казаць аб паўднёвых.

### Беларускія вучыцельскія курсы.

25 чэрвеня, сёл. г. у беларускім доме, Вострабрамская 9, адчыняюцца курсы для вучыцялёў беларускіх школ. Прымаюцца на курсы так сама кандыдаты ў вучыцялі. Каб быць прынятым, патрэбна мець пасьведчаньне аб акончаньні ня меней чатырох клясаў Канцэлярыя курсаў памятчаецца — Вострабрамская 9—5 і адчынена ад 9-да 2 і ад 4-да 6.

На курсех будуць вучыць беларускае мовы, польскае мовы, гісторыі Беларусі, пэдагогікі, мэтодыкі і інш. чытаць лекцыі будуць лепшыя пэдагагічныя сілы.

Слухачы карыстаюцца дармоваю кватэран і невялічкай дапамогай.

Кіраўніком кррсаў назначаны Рак-Міхайлоўскі.

### Беларускае Інфармацыйнае Бюро.

У скорым часе ў Вільні мае быць арганізавана Беларускае Інфармацыйнае Бюро, якое будзе даваць у прэсу весткі з беларускага жыцьця.

### Купальская вячэра.

Ўчора 23 чэрвеня ў б. Беларускім Клюбе (Біскупская 12) адбылася сямейная вячэра, на якую запісалася шмат асоб.

## ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Профэсыянальны Саюз сельскагаспадарскіх рабочых.

19 чэрвеня ў Вільні адбыўся дэлегацкі зьезд Прафэсыянальнага Саюзу сельскагаспадарскіх рабочых Віленскага павету, ў якім прыймалі удзел каля 50 дэлегатау. Зьездам зацьверджаны стаўкі пэнсыяў (грашмі і натураю) для розных катэгорыяў сельскагаспадарскай працы. Пастаноўлена пашырыць чыннасьць Саюзу на ўсю тэрыторыю Сярэдняе Літвы. Выбрана новая управа Саюзу; у прэзыдыум увайшлі: Краскоўскі (старшыня), Невядомскі (сэкрэтар), Бартніцкі (скарбнік). Кіраўніцтва культурна-прасьветнай сэкцыяй даручана сябру Ураду Тарашчанцы.

Бюро Саюзу пераносіцца на Вострабрамскую вуліцу, дом № 42, якое будзе адчынена ад 9 да 3 гадзіны штодзенна.

### Епархіальны зьезд.

Ў сераду 22 г. чэрвеня пачаўся Епархіальны зьезд праваслаўнага духавенства і міран. Ўжо зьехалася каля 50 дэпутатаў.

## Грамадзкія настроі.

(*З падслуханых гутарак*).

— Ці ня ведаеце, паночку—вось тутака ў „Jednaści“ друкавалася, быццам з Лодзі прыехаў у Вільню вядомы беларускі дзеяч п. ...Ну, як яго... ўсім вядомы... Дзе жыве?..

— А як-жа, паночку!—ведаю, ведаю—вось пойдзеце проста на Вялікую вуліцу...

— Ага, ага...

— Тамака ёсьць дом № 37... брама гэтакая камéнная і на ёй вывеска... вялізарная гэтакая і напісана — „панарама і музэй-паноптыкум“.

— Ага, ага...

— Ну, дык вось тамака ён і жыве...

* * *

### У „Цялятніку“.

Сядзяць два „сябры“ зьліквідаванае Б. В. К. Адзін зьліквідаваны ў Лодзі, другі — ні то ў Вільні, ні то ў Горадні... Абодва ў „безработцы“... Гэнэральскага аблічча ўжо ня маюць... і ня чуецца быўшае паважнасьці...

— Ну, як-жа вы, пане гэнэрале, жывецё... што робіце?..

— А нічога, пане гэнэрале, пакуль што... так сабе... думаю ў „Краёваю Сувязь“ наняцца...

— Навошта, пане гэнэрале?—Здаецца-ж наша „jednaść“ з палякамі яшчэ ня спынілася?

— Як-жа гэта, пане гэнэрале?..

— Дый гэтак-жа сама, як і раней—толькі, як кажуць, крыху наадварот—тады... наш „першы аддзел“— мы наглядалі, а цяперака—іхні «drugi oddział»... нас наглядае.

* * *

### На вуліцы.

Спатыкаюцца два беларусы. Абодва прыехалі з Коўна... Адзін—вось толькі што, другі—раней на 2 месяцы..

— А! братачка! Як маешся?.. Пэўне ўжо і месца знайшоў?..

— Ага... знайшоў...

— І хутка... і можа, як той казаў, і з пайком?

— Хутка, братачка — праз два дні, як прыехаў... канешна з пайком!..

— Пэўне-ж „па пратэкцыі“?! Ці сам лазіў“ і прасіўся?!

— Не, братачка, ня лазіў і не прасіўся—навет адмаўляўся—бо месца нейкае безработнае—але, ма быць, „пратэкцыя“ была, бо самі прыйшлі, запросілі і... адразу на „месца“...

— Дык можа і мяне ўстроіш? Вось бы пашанцавала!..

— Пашанцуе, братачка,—само устроіцца — бо ваканцыяў ёсьць даволі, і кожны з нас, як прыяжджае, хутка адтрымлівае...

— Можа месца нядобрае? і хто гэта клапоціцца?..

— Клапоціцца, братачка, „defenzywa“, а месца — ў Лукішках у каморы № 138.

* * *

### У буфэце Беларускага клюбу.

— Што гэта вы, паночку?!—Здаецца і гарэлкі ня пілі, а сядзіцё над сваёй вячэрай і сьлязьмі заліваецеся?...

— З гора, паночку! Бо, здаецца, пачынаю сьлепнуць — буфэтчык падаў, быццам, катлету 100 марковую, а я гляджу ў талерку і нічога ня бачу...

* * *

### Ў Беларускім клюбе.

— Але, як-жа вам, панечка, спадабалася апошняе прадстаўленьне «Паўлінкі»?

— А нічога сабе... добра... а асабліва, калі артысты і артысткі пачалі вячэраць у буфэце — ўсё гэта было ў іх натуральна... жыцьцёва, ну зусім, быццам, у хаце...

Куля.



## Весткі з Савецкай Беларусі.

**Марына Горка, Ігум. пав.**

У суботу 21 і нядзелю 22 траўня ў Марынай Горцы ў тэатры студэнтамі Марына-Горскага с.-г. Тэхнікуму былі пастаўлены два спэктаклі.

На 22 траўня білеты дзеля ўходу у тэатр былі раздадзены паміж сялянамі акружных вёсак. Частка мясцоў была дадзена нядаўна згуртаванай у б. м. „Шарамышлі“, прыехаўшымі з Амэрыкі беларусамі, сел.-гасп. камуне „Зорка“.

На спэктакль 22 траўня была папрошана і прышоўшая з Дукорскай школы 2-й ступені ў с.-г. Тэхнікум экскурсія.

Пастаўлена была, як у першы, так і ў другі дзень сучасная драма на беларускай мове „Апошняе спатканьне“—Галубка. Чутка аб пастаноўцы ў М.—Г. спэктаклю хутка распаўсюджылася па акружных вёсках.

Яшчэ больш цягнула грамадзян на спэктакль вялікая аўторытэтнасьць стаўляемай драмы, выхапленай аўторам перад нашымі вачыма з рэвалюцыйнага выбуху Беларусі ў 1905 годзе, калі яшчэ царскабуржуазныя дзяржаўныя падпоры былі вельмі моцнымі і бізун царскіх і панскіх паслугачоў—паліцэйскіх стражнікаў безатветна сек плечы беларускага працоўнага селяніна.

К пачатку прадстаўленьня сабралася гэтак многа грамадзян, што вялікая каменіца, дзе знаходзіцца тэатр ня мела магчымасьці памясьціць усіх жадаючых. Драма была выпаўнена вельмі пекна. Грамадзяне пасьля кожнага акту вельмі доўга пляскалі артыстам і артысткам.

Адбітак ад прадстаўленьня у сабраўшыхся застаўся самы лепшы.

У прамежкак паміж актамі яны дзяліліся сваімі адбіткамі і вельмі часта выгукавалі болей адмеціўшыхся сваёй гульнёй артыстаў і артыстак. Грым і вопратка былі падобраны вельмі праўдзівымі і тыповымі. Сцэна і дэкарацыя, будованая самімі студэнтамі, якраз выразна адказавалі тым тыпам, варункам і абставінам, пры якіх праходзіла гэтая драма жыцьця беларуса ў часы панаваньня царызму.

Асабліва пекнай была сцэна, дэкарацыя й гульня 4-га акту драмы, дзе вельмі выразна быў перададзены царскі вастöрг пры начной асьвеце са сваім нявымоўным на мове чалавека цяжарам, дзе таміліся й цяглі сваё загубленае царскім уціскам жыцьцё, дажывалі апошнія хвіліны „палітычныя шкоднікі“ студэнты, курсісткі й іншая, поўная моцы жвавасьці моладзь. Недалёка ад вастрогу на краіне лесу ўздымалася ў вышыню шыбеніца з таўстымі жалезнымі крукамі й моцнымі вяроўкамі, каля якой кат гатаваўся к вешаньню „шкодных“ людзей.

Чацьвёрты акт драмы зрабіў вельмі цяжкі уплыў на псыхолёгічны настрой прысутных грамадзян, так што вялікая частка жанчын ня мелі магчымасьці глядзець на драму і па вывадзе арыштантаў на кару яны з дзяцьмі павыходзілі з тэатру.

Пасьля сканчаньня драмы у абодва разы быў дывэртысмэнт, нумяры якога былі вельмі падходзячымі й пекна выпаўнены і часткова разагналі той сумны настрой грамадзян, які ад'знаныў сабой канчатак драмы.

Спэктаклі скончыліся сьпевам „Беларускай марсэльезы“ позна ўночы.

Ф. Х.

### Рабочы каапэратыў.

(*Смалявіцкая воласьць*).

У клюбе мясцовага профсаюзу адбыўся сход членаў саюзу. Выбрана тарыфна-нарміровачная камісія й вырашана пытаньне аб стварэньні рабочага каапэратыву, які будзе рабіць тавараабмен з вёскаю рэчамі мясцовага вырабу.

(Белроста).

